ВЫПУСК #12

29 СНЕЖНЯ, 2020

# КУЛЬТУРНЫ СУПРАЦІЎ У БЕЛАРУСІ



БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР




БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР ВІНШУЕ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!
ХАЙ БУДЗЕ МОЦНЫМ ЗДАРОЎЕ, НЕРВЫ І НАШАЯ ВЕРА Ў ПЕРАМОГУ!
ШЧАСЦЯ, РАДАСЦІ І СВЯТЛА ВАМ!



ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ?

ПАДТРЫМАЙЦЕ

БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

І КАМПАНІЮ "SAVE OUR SONGS"

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ



21 снежня, пасля абскарджання, судом вышэйшай інстанцыі была адмененая пастанова Кастрычніцкага суда г.Мінска ад 7 снежня, паводле якой музыка і літаратар ***Уладзь Лянкевіч*** атрымаў **15** сутак арышту, але Уладзь адбыў арышт цалкам.



***Ягор Шумскі***, фатограф і дызайнер, затрыманы ў двары свайго дома ў Мінску 20 снежня, атрымаў ***13*** сутак арышту.



26 снежня некалькі жыхароў Серабранкі зладзілі прабежку ў касцюмах Дзеда Мароза, падчас якой яны дарылі дзецям цукеркі. Прабежка адбылася без палітычных лозунгаў і сцягоў, але на яе прыехалі 4 бусы сілавікоў: адбыліся разгон і затрыманні. ***Ганна Загурская*** атрымала **20** сутак арышту, ***Вольга Сераглазава*** – штраф **20** базавых велічынь (**540** рублёў).



***Аляксандр Маўчанаў***, актор тэатра і кіно, быў затрыманы вечарам 27 снежня на адзіночным пікеце ў Мінску. 28 снежня Аляксандр атрымаў **11** сутак адміністратыўнага арышту.



***Андрэй Прыстаўка***, жыхар Брэста, затрыманы ў сёмы раз. 28 снежня суд прысудзіў Андрэя да **15** сутак арышту і пастанавіў знішчыць сцяг з гербам "Пагоня", канфіскаваны ў затрыманага.



***Уладзімір Ягоўдзік***, дзіцячы пісьменнік, быў затрыманы 27 снежня, калі ішоў карміць птушак да ракі. Ноч пісьменнік правёў у Цэнтральным РУУСе, а 28 снежня суд аштрафаваў яго на **30** базавых велічынь (**810** рублёў).

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ



Андрэй Галанаў



Ілля Сільчукоў



Рэгіна Саркісава

У канцы кастрычніка з Вялікага тэатра Беларусі звольнілі пяцёх таленавітых прафэсіяналаў, якія адважыліся публічна, перад пачаткам спектакля, выказацца супраць гвалту ў краіне. Гэта былі дырыжор ***Андрэй Галанаў***, саліст ***Ілля Сільчукоў***, канцэртмайстарка аркестра ***Рэгіна Саркісава***, музыкі аркестра ***Ала Джыган*** і ***Аляксандра Пацёміна***. Чацвёра з іх з’ехалі з Беларусі: Саркісава і Галанаў – у Літву, Джыган – ў Швейцарыю да дачкі, Сільчукоў – у ЗША.

**ПАДРАБЯЗНЕЙ ПРА АКАЛІЧНАСЦІ АД’ЕЗДУ РЭГІНЫ САРКІСАВАЙ:**
**ДНЁМ 3 СНЕЖНЯ ЁЙ ПАТЭЛЕФАНАВАЛІ З РУУС З ПАТРАБАВАННЕМ З’ЯВІЦЦА ПА ПОЗВЕ “ЗА ЗРЫЎ МЕРАПРЫЕМТСВА”. РЭГІНА НЕ СТАЛА ЧАКАЦЬ СУСТРЭЧЫ Ў РУУС, А ТУТ ЖА САБРАЛА ВАЛІЗКІ І З'ЕХАЛА Ў ВІЛЬНЮ.**




Арт: Жана Капуснікава



**У МІНСКАЙ ГАЛЕРЭІ МІХАІЛА САВІЦКАГА ПРАЗ 48 ХВІЛІН ПАСЛЯ АДКРЫЦЦЯ ЗАКРЫЛІ ВЫСТАВУ “ДОСТАТОЧНО” – МІЖНАРОДНЫ ПРАЕКТ МАСТАЧАК. НЕЗАДАВОЛЕНАСЦЬ СПРАВАКАВАЎ БЛОК ЖАНЫ КАПУСНІКАВАЙ, НЕКАТОРЫЯ ЯЕ ПРАЦЫ АДЛЮСТРОЎВАЛІ БЯГУЧЫЯ ПАДЗЕІ І ЗМЯШЧАЛІ РОЗНЫЯ ВАРЫЯНТЫ СЛОВА “ДОСТАТОЧНО” НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ: “ГОДЗЕ!”, “ДАВОЛІ”, “ДОСЫЦЬ!”**




***Уладзімір Пугач***, музыка, сябар асноўнага складу Каардынацыйнай рады, быў выкліканы на допыт у Следчы камітэт 23 снежня. Допыт цягнуўся **3,5** гадзіны.



# 3. РЭПРЭСІІ ЗА СІМВОЛІКУ



Ілюстрацыя: Belsat

Жыхара горада Бяроза ***Змітра Труцько*** затрымалі каля дзвярэй уласнай кватэры і на **72** гадзіны змясцілі ў раённы ІЧУ за бел-чырвона-белы сцяг на балконе. Справу даслалі на дапрацоўку.





***Кастусь Лісецкі***, рэдактар часопіса "Роднае слова", бас-гітарыст гурта Recha, атрымаў штраф **20** базавых велічынь (**540** рублёў) за бел-чырвона-белы сцяг у акне – на яго паскардзілася настаўніца 68-й школы горада Мінска.

***Віктар Стукаў***, полацкі актывіст, праваабаронца і журналіст, правёўшы **72** гадзіны за кратамі, атрымаў штраф у **10** базавых велічынь (**270** рублёў) за сцяг на балконе.

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ




**ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ І ТВОРЧЫ ПРАЕКТ FREEDOM BELARUS ПРЭЗЕНТАВАЛІ СУМЕСНЫ ФОТАПРАЕКТ.**

Яго героі — творчыя асобы, якія пацярпелі падчас пратэста-2020: журналістка ***Наталля Лубнеўская***, актрыса ***Алена Гіранок***, дуэт ***VAL***, музыка і мастак ***Андрусь Такінданг***, музыка і педагог ***Леанід Паўлёнак***, гімнаст і колішні артыст Cirque du Soleil Сямён Букін. Кожны з іх сказаў, што для яго значыць паняцце "СВАБОДА".




Прэм'ера анімацыйнага кліпа на песню «Свабода», беларускамоўную версію легендарнай песні "Kocham wolność" польскага гурта Chłopcy z Placu Broni, у выкананні ***Змітра Вайцюшкевіча***.




Грамадзянская кампанія ***"Годна"*** зладзіла трэцюю, калядную анлайн-сустрэчу "Годны двор".



У Гродна адкрылася выстава калядных конікаў.

***Валянціна Шоба***, мастачка, аўтарка выставы, прызнаецца:

***“У нас цяпер адзін галоўны конь — гэта Пагоня. Аўтаматычна ён пераходзіць у калядных конікаў, пернічных. Снег, коні, вельмі ўсё прыгожа, калядная казка... Гэта вельмі прыгожае свята, свята жаданняў, коні таксама чароўныя. Я спадзяюся, што ва ўсіх нас усе жаданні споўняцца”.***







Беларускі пратэст і мастацтва на шэрых панэльках: ***топ-20 беларускіх кліпаў 2020 года***.

***Вольга Шпарага***, філосафка, выкладчыца ECLAB, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра і Каардынацыйнай рады, правяла анлайн лекцыю-гутарку “Вынікі Беларусі 2020: жанчыны знаходзяць новыя сілы” на тэму жаночых пратэстаў і перспектываў развіцця жаночага руху ў Беларусі.






АДКРЫЎСЯ ВІРТУАЛЬНЫ МУЗЕЙ СЦЯГОЎ ГАРАДСКІХ РАЁНАЎ, РЭГІЁНАЎ І ДЫЯСПАР.




ПРАЦА УЛАДЗІМІРА ЦЭСЛЕРА "СУДНЫ ДЗЕНЬ".

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**СВЯТЛАНА АНІКЕЙ, АКТОРКА КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА, ЯКАЯ ПАКІНУЛА ТЭАТР НА ЗНАК ПРАТЭСТУ РАЗАМ З АСТАТНІМІ, НАЙЛЕПШАЯ АКТОРКА ПА ВЕРСІІ 15-ГА АГУЛЬНАПОЛЬСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ СУЧАСНАЙ ДРАМАТУРГІІ, ЯКАЯ ЧАСОВА ВЫЕХАЛА З БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧУ.**

**“Я КУПЛЯЛА Ў КРАМАХ ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО Я МАГУ КУПЛЯЦЬ, ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО НЕ КОРМІЦЬ УЛАДЫ. У МЯНЕ ЎСЁ БЫЛО ВЕЛЬМІ СТРОГА. КОЖНЫ ЧАЛАВАЕК ЗМАГАЕЦЦА ЯК МОЖА З ГЭТАЙ СІСТЭМАЙ. З КОЖНЫМ ДНЁМ ГЭТА СТАНОВІЦЦА ЯК МАНАСТЫР НЕЙКІ. ГЭТА ПОЎНЫ АСКЕТЫЗМ У ЖЫЦЦІ, АЛЕ ЛЮДЗІ ЗГОДНЫЯ ЦЯРПЕЦЬ УСЁ ШТО ТОЛЬКІ МАЖЛІВА, АБЫ СКОНЧЫЛІСЯ ГЭТЫЯ СТРАШНЫЯ ЧАСЫ, ГЭТЫЯ ЗАБОЙСТВЫ, ГЭТЫ ЖАХ”**



**<u>ВАЛЬЖЫНА МОРТ</u>, БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАЯ ПАЭТКА, ЯКАЯ ЖЫВЕ Ў ГОРАДЗЕ ІТАКА Ў ШТАЦЕ НЬЮ-ЁРК, ДЗЕ ВЫКЛАДАЕ Ў ПРЭСТЫЖНЫМ КАРНЭЛЬСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ:**

Паэтычны зборнік Вальжыны **"Music for the Dead and Resurrected"** ("Музыка для мёртвых і ўваскрэслых"), які выйшаў сёлета, залічаны ў топ паэтычных выданняў **2020** году ў ЗША.

**“МЫ БАЧЫМ, ЯК УСЕ ПРАЦУЮЦЬ ЦЯПЕР НАД ТЫМ, КАБ ПАМЯТАЦЬ, БО ПАМЯЦЬ – ГЭТА ДЗЕЯННЕ. НЕЗДАРМА ЛЮДЗІ АТРЫМЛІВАЮЦЬ СУВОРЫЯ ПРЫСУДЫ ЗА ТОЕ, ШТО ПІСАЛІ СЛОВЫ НА АСФАЛЬЦЕ: МЫ БУДЗЕМ ПАМЯТАЦЬ, МЫ НЕ ЗАБУДЗЕМ. КАБ ПОМНІЦЬ, ТРЭБА ЎМЕЦЬ ЗАЎВАЖАЦЬ, ТРЭБА ЎМЕЦЬ ЗАЎВАЖАЦЬ МАЛЕНЬКІЯ ДЭТАЛІ, ЗАЎВАЖАЦЬ ГЭТЫЯ НАДПІСЫ НА СЦЕНАХ, ЗАЎВАЖАЦЬ АДНО АДНАГО, ВЕДАЦЬ АДНО АДНАГО. ТОЕ, ШТО ЦЯПЕР АДБЫВАЕЦЦА, – ГЭТА ПРОСТА НЕВЕРАГОДНА. ГЭТА САПРАЎДНАЯ ПАЭЗІЯ, УВАСОБЛЕНАЯ Ў ЦЭЛАЙ КРАІНЕ. ГЭТА МАСТАЦТВА. ГЭТЫМ ЗАЙМАЕЦЦА МАСТАЦТВА – ТЫМ, КАБ ЗАЎВАЖАЦЬ І ПАМЯТАЦЬ. І ЦЯПЕР У НАС ЦЭЛАЯ КРАІНА ГЭТЫМ ЗАЙМАЕЦЦА”.**

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**ВЫСТАВА “ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!” АДБЫВАЕЦЦА Ў МУЗЕІ ПОЛЬСКАГА ГОРАДА СЬРЭМ.**

**У ЁЙ БЯРУЦЬ УДЗЕЛ АЛЕСЬ ПУШКІН, КСЕНІЯ ВЫСОЦКАЯ, МАРК МАКСІМОВІЧ, СЯРГЕЙ ШАБОХІН І ІНШЫЯ.**




**Артыкул пра сучасную беларускую паэзію** выйшаў у нямецкім зборніку тэкстаў “Улада замест гвалту альбо гвалт замест улады (Беларусь: крокі да свабоды альбо: рэпрэсіі, дамаганні, тэрор)”.




Арт: Віталь Дегцяроў



Вядомы беларускі віяланчэліст ***Аляксей Кісялёў*** выканаў аўтарскую версію "Купалінкі" з ***Каралеўскім аркестрам Шатландыі.***



Канцэрт беларускай опернай спявачкі ***Маргарыты Ляўчук*** пры ўдзеле літоўскага піяніста ***Юстаса Чапоніса*** адбыўся 27 снежня ў Палацы Радзівілаў у польскім Нябoруве па ініцыятыве князя Мацея Радзівіла.






Прэм'ера спектакля **"Дыхаем разам"** — сведчанні ўдзельнікаў падзей пасля 9 жніўня ў Беларусі, адбылася 21 снежня ў Рускім драматычным тэатры Літвы.

***Веліда Кент***, амерыканка з крымскімі каранямі, жонка намесніка Главы дыпламатычнай місіі ЗША ў Кіеве, стварыла з імбірнага печыва мінскі Чырвоны касцёл і кампазіцыю з пратэстоўцаў, сцягоў і плакатаў вакол, прысвяціўшы твор народу Беларусі.

